# ІВЕЙСКАЯ КРЫНІЦА

ВЫДАНЬНЕ ІВЕЙСКАЙ РАЁННАЙ РАДЫ БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ" | №2 | 26.04.90

1986  1990





Чорнобыль...

Гэтае слова ведаюць усе, нават самыя маленькія дзецІ. Нават тыя, якІя зьявІлІся на сьвет ужо пасьля таго страшнага красавІцкага дня І986-га, таго дня, якІ паламаў тысячы І тысячы нашых жыцьцяў І працягвае трымаць у палоне ўвесь наш народ. Той дзень — ужо гІсторыя. Але ён — І нашае сёньня. Бо мы да канца так І не ўяўляем сабе ўсяго жаху таго чарнобыльскага дня.

Той дзень — нашае сёньня, бо дзецІ нашыя ходзяць па зямлІ, гуляюць у пяску, зрываюць духмяныя антонаўкІ й пунсовыя сунІцы, плёскаюцца ў цёплым летнІм возеры І ня думаюць аб тым, што на кожным кроку Іх падсьцерагае нябачная І каварная сьмерць.

Той дзень — нашае сёньня, бо І дагэтуль нам не сказалІ ўсяе праўды пра Чорнобыль, бо І дагэтуль нас спрабуюць ашукваць І ашукваюць.

Той дзень — нашае сёньня, бо сёньня яшчэ ня позна, сёньня яшчэ можна ўратавацца І ўратаваць нашых нашчадкаў. ТолькІ сьмешна ратаваць сябе пры дапамозе Ілжэпатрыятычных суботнІкаў, якІя нам навязваюць.

ТолькІ нашая згуртаванасьць у барацьбе за элементарныя правы людзей, якІя трапІлІ ў бяду, можа ўратаваць нас.

І толькІ тады ў нас можа быць хоць нейкае заўтра.

---

ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН

* * *

Ад Чорнобыля ў небе плыве аблачынка.
А па лузе Ідуць хлапчанё І дзяўчынка.
Вецер шастае колкІ.
ЛІпкІ дождж Імжыць...
І хто ведае,
КолькІ
Засталося Ім жыць.

Дзяўчанё яснавокае І хлапчук сьветларусы —
Па вясновай зямлІ Ідуць беларусы.
УзІраюцца ў неба зусІм без апаскІ,
Каля сьцежкІ зрываюць панІклыя краскІ.
І праграс перад позІркам ІхнІм дрыжыць.
"А цІ будзем мы жыць?"
"А цІ будзем мы жыць?!"

## КОШТ ЖЫЦЬЦЯ — 35 БЭР?

У нашай раённай газэты даволІ ўдалая назва — "Путь Ильича". Па гэтым "пути" мы Ідзём, а дакладней, паўзём, ужо болей за 70 год. І куды прыпаўзьлІ — усе бачаць. Бачаць то ўсе, але ня ўсе хочуць спынІцца ды й падумаць: а што ж чакае нас наперадзе гэтага "пути"? Вось І "Путь Ильича" спыняцца зусІм не жадае, а паказвае нам шлях у бездань. У нумары ад І9 красавІка яна з гэткІм зухаватым аптымІзмам заяўляе, што "...узровень радыёфону, якІ зарэгІстраваны на тэрыторыІ раёна, укладваецца ў вядомую канцэпцыю 35 бэр. На думку вучоных, дадзены па-

(далей гл. стар. 2)

# «ИСКОНИ РУССКИЕ ЗЕМЛИ»

ГЕНАДЗЬ САГАНОВIЧ

"Известно, что край этот -- Белоруссия -- никогда не был самостоятельным и никогда не считался за вновь приобретённый; он только был оторван от Польши, как исконная собственность России".

Аляксандр II. 1858 г.

"Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты".

В.Кнорын, 1918 г.

"Усё тое, што так цI Iнакш гаварыла аб былой гIсторыI БеларусI, што так цI Iнакш магло напамIнаць, што Беларусь гэта ня ёсьць Расея,-- усё гэта нIшчылася, прасьледавалася, выпальвалася агнём ды жалезам".

А.Чарвякоў. 1924 г.

1000 гадоў беларускай гIсторыI мы адлIчваем ад 980 года, ад першай самастойнай беларускай дзяржавы -- Полацкага княства. Пасьля была фэдэрацыя БеларусI зь ЛIтвой у ВялIкIм княстве ЛIтоўскIм, пасьля -- фэдэрацыя з Польшчай у Рэчы ПаспалIтай. У канцы ХУIII стагоддзя Рэч ПаспалIтая была падзеленая трыма суседнIмI IмпэрыямI. Беларусь страцIла сваю дзяржаўнасьць I сувэрэнIтэт I дасталася IмпэрыI Расейскай.

Цяпер давайце падлIчым. 800 гадоў сваёй гIсторыI Беларусь жыла асобна ад РасеI I была незалежнай фэадальнай дзяржавай. Гэты час пазначаны ўсебаковым разьвIцьцём нашага краю, залатым векам беларускай культуры I навукI, самым дэмакратычным I дасканалым у тагачаснай Эўропе кодэксам права -- Статутам Старабеларускае дзяржавы ХУI ст. Гэты ж час пазначаны для нас амаль бясконцымI войнамI з усходнIм суседам -- Маскоўскай дзяржавай. А цяпер параўнаем: 800 гадоў адкрытай варожасьцI I 200 апошнIх гадоў "брацтва" I "дружбы", 800 гадоў сувэрэнIтэту I 200 гадоў "исконо русских земель", 800 гадоў нацыянальнага разьвIцьця I багацьця -- I 200 гадоў заняпаду, хлусьнI I бяспамяцтва... Нельга, вядома, пераносIць варожасьць дзьвюх фэадальных дзяржаў на адносIны беларуса I расейца, нашых народаў I культур. Але ж нельга ператвараць гэтыя адносIны ў "спрадвечную любоў","крэўнае братэрства" I г.д. Нельга забывацца на ўласную гIсторыю. А ў нас атрымалася так, што сёньня ўжо мала хто ведае, што да канца ХУIII ст. Масква нIколI не была нашай сталIцай, альбо што зь Iванам ЖахлIвым (Грозным) I Пятром I мы, беларусы, былI ў розных дзяржавах, што гэта ня нашы цары I ня наша гIсторыя. А якая ж тады наша? Гэта асобная гаворка. Сёньня мы возьмем з беларускай гIсторыI толькI некалькI момантаў, якIя тычацца беларуска-расейскIх дачыненьняў.

...Полацкая зямля першая вырвалася зь "IмпэрыI РурыкавIчаў", адваявала сваю незалежнасьць. Затым I ўся КIеўская дзяржава развалIлася на дробныя часткI. Надта ж розныя этнасы спрабавала яна ахапIць.

IмпэрыI ўжо не Iснавала, калI далёка на ўсходзе, у вярхоўях ВолгI ды АкI паўстала Залеская Русь -- новы каланIзаваны славянамI рэгIён. У сярэдзIне XII ст. там зьявIўся горад Масква. Назва Русь замацавалася за гэтым краем толькI ў XIII ст.

(працяг у наступным нумары)

АДРАС РЭДАКЦЫI: Iўе, вул. Карла Маркса, Цэнтр вольнага часу "Стары млын". Юрыю Гайдуку.

Тэлефон 2-24-23

Шаноўныя чытачы! Бяз Вашых ахвяраваньняў выданьне газэты будзе немагчымым.

Выпуск падрыхтавалI Юры Гайдук I Iгар КарпIкаў.